# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: ***www.pahonia.org, e-krama.com***
Электронны адрас: ***viestki@mail.com***
✉: ***VIESTKI, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735***

**№ 4 (566)**
**Красавік 2013 г.**


## Сьвяткаваньне 25 Сакавіка ў Нью-Брансўіку

У нядзелю 24-га сакавіка адбылося супольнае сьвяткаваньне 95-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі аддзелам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў штаце Нью-Джэрзі й Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня".

А 10-й раніцы ў Гайленд-Парку ў царкве Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ настаяцель а. Зінові адслужыў малебен за Беларусь і беларускі народ .

Апаўдні пачалася ўрачыстая акадэмія ў гатэлі Гаят-Рыджэнсі ў Нью-Брансўіку, якая была адкрытая амэрыканскім гімнам у выкананьні Вольгі Казак-Анлар.

Сьвяточную імпрэзу блаславіў малітваю сьвятар а. Зянові. Затым былі зачытаныя прывітаньні, дасланыя з нагоды ўрачыстасьці.

Зь віншавальнаю прамоваю выступіў намесьнік старшыні Згуртаваньня "Пагоня" Яўген Барысевіч. Ён таксама прачытаў прамову, падрыхтаваную сябрам "Пагоні" Арцёмам Гусаком.

Наступным выступіў зь віншаваньнямі й кароткім паведамленьнем аб дзейнасьці арганізацы старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью-Джэрзі Юрка Азарка. Ім, а таксама Тацьцянай Кулакевіч, былі зачытаныя віншаваньні ад сэнатараў Франка Ляўтэнбэрга і Робэрта Мэнэндэс ды губэрнатара штату Нью-Джэрзі Крыса Крысьці, а таксама ад кангрэсмэна Крыстафэра Сьміта.

Янка Грышкевіч зачытаў віньшаваньне ўдзельнікам сьвяткаваньня ад Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына".

Тацьцяна Кулакевіч прачытала падрыхтаваны ёю сьвяточны даклад, у якім гаварылася аб важнасьці Дня Волі для дэмакратычнай беларускай апазыцыі. Гэты дзень назаўсёды застанецца найвялікшым сьвятам нашай дзяржаўнасьці, ідэнтычнасьці і гістарычнай памяці.

Верш свайго ўлюбёнага паэта Анатоля Сыса "Маналёг Апанаса Філіповіча" прачытала Валянціна Якімовіч.

Андрэй Паторскі зь Нью-Ёрку пад гітару выканаў песьню на ангельскай мове "Далоў успаміны".

Потым прайшоў сьвяточны банкет, пасьля якога знакамітае трыё Алеся, Валянціны й Вольгі Казакоў распачалі канцэрт выкананьнем "Малітвы", напісанай Уладзімерам Мулявіным на словы Янкі Купалы. У канцэрце гучэлі ўсім вядомыя і любімыя патрыятычныя аўтарскія, а таксама фальклёрныя песьні.

Удзел у канцэрце ўзяў вядомы кампазытар Яўген Магаліф, музыку якога адносяць да залатога фонду беларускай культуры і якая вядомая далёка за межамі Беларусі. Ён чульліва прасьпяваў некалькі песень, сярод іх "Туманы-туманы", "Толькі ўчора, здаецца, плылі ручаі...", а таксама песьню на словы С. Грахоўскага "Дзе мая радасьць, дзе маё гора...", прысьвяціўшы яе сваёй маці.

Кан Анлар – муж Вольгі Казак, які па нацыянальнасьці турак, па-беларуску разам з жонкаю прасьпяваў вядомую ўсім "Купалінку" і сказаў, што да наступнага сьвяткаваньня вывучыць песьню "Туманы, туманы". Тым самым ён даў добры прыклад для нашай моладзі, большасьць якой сёньня ня вельмі цікавіцца беларускай мовай і цэніць яе.

Канцэрт, а разам зь ім і ўся сьвяточная імпрэза, завяршыўся агульным выкананьнем "Пагоні" Максіма Багдановіча й малітвай Натальлі Арсеньевай "Магутны Божа".

***Валянціна ЯКІМОВІЧ***



# Сакавіцкі сход Згуртаваньня “Пагоня”




У Доме Маракоў 9 сакавіка адбыўся чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Правяла яго сакратар Згуртаваньня Валянціна Якімовіч. Яна падзялілася ўспамінамі аб тым, як яе бацька выхоўваў дачку беларускай. Але больш на яе нацыянальную сьвядомасьць паўплывалі беларускія песьні, якія яна чула ад бацькі за сяброўскай бяседай з аднавяскоўцамі. Потым, на жаль, павальная русіфікацыя школаў у той час прывяла да сумнавядомага выніку.

У Менску, куды Валянціна паехала вучыцца ды так і засталася жыць, у 1987-м годзе ёй пашчасьціла пазнаёміцца з маладым таленавітым паэтам Анатолем Сысом, патрапіць у кола нацыянальна сьвядомае моладзі “Талаку”, пасябраваць з “Тутэйшымі”. Гэтыя суполкі ставілі сабе за мэту адраджэньне беларускай мовы й народных традыцыяў. Але ў вельмі хуткім часе змаганьне за мову, гістарычную памяць і адраджэньне традыцыйных народных сьвятаў прывялі моладзь да ідэі адраджэньня незалежнасьці Беларусі. Так абсалютова бяскрыўдны фальклёр паўплываў на палітычную сытуацыю ў краіне: дапамог Беларусі адрадзіць незалежную дзяржаву ў 1991-м годзе.

З тае пары зацікаўленасьць народнымі строямі, народным бытам ды правядзеньне традыцыйных абрадаў сталі вобразам жыцьця для Валянціны й яе сяброў-аднадумцаў. Яна падрабязна расказала пра першыя сьвяткаваньні народных абрадаў ў Менску ў 80-я гады мінулага стагодзьдзя. Потым патлумачыла паходжаньне і значэньне асноўных беларускіх народных абрадаў, асабліва падкрэсьліўшы важнасьць працягу намі традыцыяў нашых продкаў для нашага самавызначэньня ў сёньнешнім пераменьлівым сьвеце. Сп-ня Якімовіч нагадала, што ў Нью-Ёрку ўжо працяглы час ладзяцца Купальлі і Гуканьні вясны.

Затым сп-ня Якімовіч заклікала ўсіх далучыцца да сьвяткаваньня 95-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, што ладзяць супольна Згуртаваньне “Пагоня” і аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью-Джэрзі 24 сакавіка ў гатэлі Гаят-Рыджэнсі ў Іст-Брануўіку, штат Нью-Джэрзі.

Намесьнік старшыні Згуртаваньня “Пагоня” Яўген Барысевіч прапанаваў правесьці 23-га сакавіка мітынг каля штабкватэры Арганізацыі Аб’еднаных Нацыяў на Мангэтане ў гонар 95-х угодкаў БНР. Моладзь ахвотна падтрымала гэтую прапанову.

Сябра ўправы Згуртаваньня “Пагоня” Ўладыка Юры ў сваім выступе сказаў, што існуе небясьпека незалежнасьці Беларусі ў выніку агрэсіўнай палітыкі Расеі й непрадказальнасьці паводзінаў кіраўніцтва Беларусі. Уладыка падкрэсьліў, перафразаваўшы выказваньне амэрыканскага прэзыдэнта Кенэды, што кожны з нас нясе адказнасьць за будучае Радзімы й павінен думаць не аб тым, якую выгоду можна паймець зь Беларусі, а што можна ёй даць.

Пасьля Яўген Барысевіч прапанаваў кожнаму з прысутных коратка распавесьці пра сябе: чым займаўся на радзіме, дзе працаваў ці вучыўся, якое мае гобі й якія будуе пляны на ўласнае будучае ў Амэрыцы. Маладыя людзі актыўна і з задавальненьнем прыняла ўдзел у гэтым кароткім біяграфічным апытаньні.

Затым адбылося знаёмства з новымі сябрамі арганізацыі.

***Валянціна ЯКІМОВІЧ***

# Сьвяточны мітынг на Мангэтане

У суботу, 23-га сакавіка, Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне “Пагоня” зладзіла ля штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку мітынг, прысьвечаны 95-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Зьбірацца на гэтым месцы ў самыя важныя моманты палітычных падзеяў у Беларусі ўжо сталася традыцыяй для нашай грамады. Такім чынам мы стараемся прыцягнуць увагу амэрыканскай і сусьветнай грамадзкасьці да падзеяў у нашай краіне.

Распачаў сьвяточны мітынг намесьнік старшыні Згуртаваньня “Пагоня” Яўген Барысевіч. Ён павіншаваў прысутных сяброў-аднадумцаў зь Днём незалежнасьці Беларусі, падкрэсьліў, што будучае нашай Бацькаўшчыны залежыць ад кожнага з нас.

Затым з кароткаю прамоваю і віншаваньнем выступіў старшыня Згуртаваньня “Пагоня” Віталь Зайка.

Сябра нашай арганізацыі Арцём Гусак выступіў з цэлым рэфэратам аб Беларускай Народнай Рэспубліцы. Ён распавёў пра неспрыяльныя гістарычныя ўмовы й цяжкасьці стварэньня БНР, падкрэсьліў, што атрымаць незалежнасьць краіны тады было вельмі цяжка, але аказалася, што бараніць яе ад ворагаў яшчэ цяжэй. Беларусаў застаецца ўсяго 9 мільёнаў. І сёньня ідзе бойка за нацыянальную самасьвядомасьць беларускага народу. Таму ўгодкі незалежнасьці, на вялікі жаль, ператвараюцца са сьвята ў пратэст супроць зьнішчэньня беларускай нацыі, яе мовы і культуры, якое пачынаецца з падмены гісторыі, навязваньня штучных псэўдафактаў, замоўчваньня адных і выпінаньня іншых падзеяў нацыянальнай гісторыі, дэгераізацыя як сучасных беларускіх нацыянальных дзеячоў, так і выбітных асобаў мінулага.

***Заканчэньне на наступнай бачыне***

# Лявон ЮРЭВІЧ. Жанры

*Юрэвіч, Лявон. Жанры. Мінск, Кнігазбор, 2013. — 528 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Кн. 21)*

Трэці дзясятак выданьняў сэрыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” пачала новая кніга беларускага архівіста ў Нью-Ёрку Лявона Юрэвіча “Жанры”. Тут сабраныя тэксты, як друкаваныя раней у розных пэрыёдыках, гэтак і цалкам новыя, прысьвечаныя такім жанрам эміграцыйнай літаратуры як травэлёг, пераклад, біяграфія, фэльетон ды літаратурная крытыка.




Разьдзел “Травэлёг” пачынаецца аглядна-аналітычным тэкстам, дзе аўтар спрабуе разабрацца ў адметнасьці беларускіх эміграцыйных апісаньняў падарожжаў. Зьвяртаецца ўвага ня толькі на геаграфію вандровак (суайчыньнікі на Захадзе былі мала абмежаваныя ў магчымасьцях вандраваць), колькі на тое, як пра іх распавядалася, на што найперш зважалася. У тэксьце, сярод іншага, ёсьць цікавыя нататкі з такіх экзатычных краінаў як Новая Зэляндыя ці Марока, аповеды пра беларускія асяродкі ў Эўропе ды Амэрыцы, а таксама шырока цытаваныя ўражаньні з адведваньня савецкай Беларусі. Апошнія дапаўняюцца і асобным тэкстам, прысьвечаным беларускаму навукоўцу Аўгену Вярбіцкаму, “чалавеку, які трымаў у руках Месяц”, што таксама адведваў СССР у 1960 г. і пакінуў свае нататкі. У разьдзеле “Травэлёгі” ёсьць таксама артыкул, заснаваны на публікацыі амэрыканскага дасьледніка Стамфарда Нэйла Гербэра “Russkoya Celo. The Ethnography of Russian-American Community”, дзе распавядаецца пра створанае ў міжваенны час у ЗША беларускае пасяленьне.

Асобна Лявон Юрэвіч разглядае эміграцыйныя пераклады, сыстэматызуючы інфармацыю пра перакладаных аўтараў, жанры, перакладнікаў, найбольш цікавыя выданьні.

Вялікі разьдзел кнігі прысьвечаны эміграцыйным жыцьцеапісаньням. Акрамя прадстаўленьня розных (у тым ліку і ўласных) спробаў аднаўленьня біяграфіяў беларусаў на Захадзе, Лявон Юрэвіч спрабуе адказаць на пытаньні: якой павінна быць энцыкляпэдычнае жыцьцеапісаньне эміграцыйнага дзеяча, хто наагул заслугоўвае на біяграму, як пісаць біяграфіі “кніжных” людзей і “мужыкоў”. Сярод артыкулаў у біяграфічным разьдзеле вылучаецца тэкст “Вітаўт Тумаш як біёграф сучасьнікаў”, дзе падаецца пераклад цікавага даведніка найбольш актыўных суродзічаў-эмігрантаў, зробленага кіраўніком БІНіМу для пэўных амэрыканскіх структураў у 1950-х г.г. Знаёмы асабіста з большасьцю сваіх герояў, навуковец-скарыназнаўца даваў ім часам вельмі рэзкія ацэнкі.

У тэкстах, прысьвечаных фэльетонам, Лявон Юрэвіч разглядае адметнасьці сатырычных друкаў беларусаў у Канадзе, а таксама рэпрэзэнтуе своеасаблівую літаратурную вайну эміграцыі й мэтраполіі, што разгортвалася на старонках адпаведных пэрыядычных выданьняў. З заходняга боку найбольш актыўным “жаўнерам” гэтае вайны быў Юрка Віцьбіч, ліставаньне якога і стала асноваю публікацыі. Гэты разьдзел, таксама як і наступны “Крытыка і літаратуразнаўства”, дапоўненыя адмысловай бібліяграфіяй адпаведных публікацыяў на старонках газэтаў “Бацькаўшчына” і “Беларус”.

Да рэпрэзэнтацыі асаблівасьцяў дачыненьняў асобных эміграцыйных аўтараў, творчых плянаў ды іх рэалізацыі, Лявон Юрэвіч дадае ўласную спробу літаратурна-крытычнага разгляду твору Зьмітрака Бядулі “Сярэбраная табакерка”.

Выданьне дапоўненае слоўнікам псэўдонімаў і крыптанімаў эміграцыйных дзеячаў ды багата ілюстраванае. Канцэптуальна “Жанры” ёсьць працягам ранейшых публікацыяў Лявона Юрэвіча, прысьвечаных эміграцыйнай літаратурнай творчасьці. Новая кніга раскрывае перад чытачамі раней маладасьледаваныя аспэкты беларускай літаратуры на Захадзе, прадстаўляе ўнікальныя крыніцы і аўтараў.

***Натальля ГАРДЗІЕНКА***

---

Напрыканцы Арцём Гусак прачытаў свой глыбокі па зьместу верш “Белая краіна”, які закрануў кожнага з прысутных на мітынгу, бо адчувалася, што ішоў ён ад самага сэрца і быў на эмігранцкую тэматыку.

Удзельнікі мітынгу скандавалі лёзунгі па-беларуску і па-ангельску.

Закончыўся мітынг супольнымі сьпевамі беларускага нацыянальнага гімну “Мы выйдзем шчыльнымі радамі” й гімнам Максіма Багдановіча “Пагоня”.

Надвор’е спрыяла правядзеньню акцыі. Па-вяснавому сьвяціла сонейка, што падымала настрой і давала надзею на лепшае будучае нашага народу й Беларусі.

***Валянціна ЯКІМОВІЧ***



# "Галгатня пра ЗыШыА"

## Не худзей, а то стлусьцееш!

Нейк трапілася мне ў рукі ўлётка „Нацыянальнага тыдня ведаў аб разладах харчаваньня". "Стаміліся ад дыеты? Спрабуйце проста жыць!!!" – зь першых жа словаў заклікаюць арганізатары. „Толькі ўявіце, колькі часу і энэргіі вы маглі б заашчадзіць для іншых заняткаў і зацікаўленьняў, калі б пастанавілі спыніць сваю дыету." Больш часу на візыты ў Макдональдс і на кампутарныя гульні – адзінае, што прыходзіць мне ў галаву ў сувязі з заклікам. Пасьля ідуць „пераканаўчыя" факты ўлёткі. „Амэрыканцы выдаткоўваюць на дыетычнае харчаваньне 40 мільярдаў даляраў у год." А дзе вынікі, пытаюся я. Эфэкт „ёё" аказваецца рызыкоўнейшым для нашага арганізму чым атлусьценьне. "Дыета, – пераконвае ўлётка, – вядзе да разладу навыкаў харчаваньня." Стоп, стоп, стоп. А ці асоба, якая пляну сесьці на дыету, ня ёсьць ужо ахвяраю разладу навыкаў харчаваньня...? Замкнёнае кола, далібог. Урэшце, "памятай, што ты варты нашмат большага, чым ты важыш!" Я разумею, што ўлётка зьвяртаецца да анарэктычак і булімічак, але дзе яны, дзе...?




Ад лютай рэчаіснасьці ўцякаю ў інтэрнэт, а адтуль, у межах чарговай сацыяльнай рэклямы, выскоквае мажная цётка і глаголіць, што мадэлькі, якіх мы бачым у тэлебачаньні, гэта наогул не жанчыны, бо жанчыны такімі худымі не бываюць. Пра тое, што быць тлусьцёхай, гэта ня проста нармальна, а нават добра, цяпер ужо пераконваюць ня толькі дзяўчат, але таксама і патэнцыйных жаніхоў. Паглядзіце, маўляў, якая прывабная ср..., ня тое што рэбры і косьці. Вось эталён! Вось прыгажосьць! Не, хлопцы і дзеўкі, ня верце. Нармальнасьць ненармальнасьцю не падменіш, а калі і падменіш, то нармальнасьць усё адно павернецца.

А, і яшчэ штосьці. Атлусьценьне – гэта ня вынік дрэннага харчаваньня. Уся справа ў генах, ну а гены, як вядома, пальцам не заторкнеш.

**Віталь ВОРАНАЎ**

---

**Уплаты ў Згуртаваньне**
Складкі й ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| В. Вайніла | 50 |
| Р. Галавач | 50 |
| А. Гусак | 50 |
| В. Пайлук | 50 |
| У. Панасік | 50 |
| А. Паторскі | 50 |
| Г. Пятрова | 50 |
| Д. Радушкевіч | 50 |
| Р. Султанаў | 50 |
| М. Ціхановіч | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя** *Valentina Balashchenko.*

*Паважаныя **Ганна Пятрова** і **Раман Султанаў**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "ПАГОНЯ"** адбудзецца **ў суботу 13-га красавіка 2013 году.**

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля на другім паверсе.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, лджаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку **www.pahonia.org***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Вескі й Паведамленьні*:**

| | |
|---|---|
| В. Вайніла | 30 |
| Р. Галавач | 30 |
| В. Мытнік | 30 |
| В. Пайлук | 30 |
| У. Панасік | 30 |
| А. Паторскі | 30 |
| Г. Пятрова | 30 |
| Р. Султанаў | 30 |
| А. Шукелойць | 20 |

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя, даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі з адзнакаю **"Вескі"** выпісвайце на імя **Valentina Balashchenko.***
*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы сайт **www.e-krama.com***